# наша свабода

№125(212) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 ЛІСТАПАДА 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК



Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ



## Канфлікт у Фронце

Падрыхтоўка да 7-га з'езда БНФ «Адраджэньне» і 5-га з'езда партыі БНФ, запланаваных на 15-16 снежня, сталася асноўным пунктам Сойма Фронту. Абмяркоўваўся план дзейнасці Фронту на бліжэйшыя гады.

У сваім выступе старшыня БНФ Вінцук Вячорка выклаў асноўныя стратэгічныя накірункі партыі і арганізацыі на бліжэйшую перспектыву. Ён заявіў, што ні партыя БНФ, ні БНФ «Адраджэньне» не збіраюцца болей супрацоўнічаць з арганізацыямі і партыямі, якія ў часе прэзідэнцкай кампаніі прадэманстравалі «альбо няздольнасць, альбо непадрыхтаванасць, негатоўнасць працаваць на агульную мэту».

Стратэгічным накірункам дзейнасці БНФ па-ранейшаму з'яўляецца абарона незалежнасці. План дзеянняў БНФ складаецца з чатырох кампанентаў. Перш за ўсё, гэта юрыдычная абарона незалежнасці Беларусі, дзеля чаго трэба «стварыць моцную кааліцыю». У ролі патэнцыйных партнёраў Вінцук Вячорка бачыць не толькі КХП-БНФ, БСДГ Станіслава Шушкевіча, прафсаюзныя партыі, экалагічную партыю і партыю «зялёных», прафсаюзы. Затым называліся абарона эканамічнай незалежнасці, абарона мовы, культурных каштоўнасцяў, беларускай школы.

Сярэднетэрміновым кірункам БНФ старшыня вызначае ўдзел у выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў 2003 года: «Мы мусім думаць, як змяняць вобраз Фронту – пераходзіць ад іміджу вечных паражэнцаў да іміджу тых, хто можа перамагаць, няхай сабе і ў малым». Ужо ў сакавіку наступнага года пачнецца маштабная праца па ўдзеле ў выбарчай кампаніі.

Выступ намесніка старшыні БНФ Вячаслава Сіўчыка быў досыць рэзкі. Ён абвінаваціў свайго апанента ў самавольным пераносе даты Сойма з 10 на 17 лістапада, з-за чаго лідэр Маладога Фронту – намеснік старшыні БНФ Павел Севярынец – не змог прысутнічаць на паседжанні. Больш за тое, В.Сіўчык, які разам з П.Севярынцам фактычна выступае ў ролі ўнутранай апазіцыі, заявіў, што Малады Фронт праявіў гераізм у абароне Курапатаў і дастаткова вырас, каб выступаць у якасці самастойнай палітычнай сілы».

Вячаслаў Сіўчык заявіў, што старшыня БНФ Вінцук Вячорка «не мае асабістых якасцяў, каб браць на сябе адказнасць і арганізоўваць калектыўную працу», і сказаў, што на перавыбарах кіраўніка Фронту будзе галасаваць супраць цяперашняга старшыні.

**Рыгор БУЯН**

## Літва рыхтуецца дапамагчы Афганістану

Два экіпажы вайсковых медыкаў могуць быць накіраваныя ў Афганістан для дапамогі мірным жыхарам краіны. Пра гэта паведаміла агенцтва ИТАР-ТАСС са спасылкай на прэс-службу міністэрства аховы краю.

Аднак, для накіравання літоўскіх вайсковых медыкаў за мяжу неабходны дазвол Сейма.

Міністэрства аховы краю паведаміла, што на сённяшні дзень у Літве ёсць тры ўзводы медыкаў, якія прайшлі адмысловую падрыхтоўку і гатовыя дзейнічаць у крызісных умовах. На ліку вайсковых медыкаў – удзел у аперацыях у Косаве, Босніі і Герцагавіне, у Албаніі. У гэтых «гарачых кропках» працавалі больш за 40 чалавек.

Цяпер вайсковыя медыкі Літвы чакаюць афіцыйнага запрашэння з боку краінаў-удзельніцаў антытэрарыстычнай акцыі, у першую чаргу – ЗША. Як толькі гэтае запрашэнне будзе атрыманае, і парламент пацвердзіць сваю згоду, медычны персанал скіруецца на Поўдзень, каб дапамагаць афганскаму насельніцтву.

Такім чынам, наша паўночная суседка Літва ўсё больш інтэгруецца ў міжнародную супольнасць. Бо інтэграцыя – гэта не толькі гатоўнасць адкрыць свае межы або атрымаць замежныя крэдыты, але і дапамагчы іншым краінам у цяжкую хвіліну, калі ёсць такая магчымасць. У Беларусі ж дагэтуль пра магчымую дапамогу антытэрарыстычнай кампаніі маўчаць.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



Усеагульныя выбары ў мясцовы заканадаўчы сход Косава, што прайшлі ў суботу, прынеслі перамогу партыі «ўмеранага нацыяналіста» Ібрагіма Руговы. Выбары былі наладжаныя АБСЕ, парадак падтрымлівалі сілы K-FOR.

## Цень лібералізацыі

*Аляксандр Лукашэнка ў мінулую пятніцу падпісаў указ аб адмене двух сваіх дэкрэтаў – №40 за 1999 год і №17 – за 2000.*

40-вы дэкрэт «Аб некаторых захадах па кампенсаванні шкоды, нанесенай дзяржаве» даваў права кіраўніку Беларусі без суда і следства канфіскоўваць маёмасць фізічных і юрыдычных асобаў – на падставе «голых» абвінавачванняў у нанясенні шкоды беларускай дзяржаве. 17-ты дэкрэт удакладняў 40-вы.

Па ацэнках экспертаў, гэтыя дэкрэты былі не толькі найгоршай праявай непісьменнасці прэзідэнцкіх юрыстаў, але мелі моцны адмоўны эфект для нацыянальнай эканомікі. Сапраўды, нашто ўкладаць грошы ў развіццё свайго прадпрыемства, калі штодня рызыкуеш «падараваць» яго дзяржаве? Дзякуючы звышзаблытанаму беларускаму эканамічнаму заканадаўству кантралюючыя органы заўсёды могуць абвінаваціць любы суб'ект гаспадарання ў нясплаце падаткаў, «настукаць» прэзідэнту, і той забярэ ўсю маёмасць дзяржаве.

Першым разбуральную моц 40-га дэкрэта адчуў Віктар Лагвінец, прэзідэнт ЗАТ «Конта-груп» і добры сябра былога кіраўніка справамі прэзідэнта Івана Ціцянкова. За паўгады да падпісання дэкрэта В.Лагвінца арыштавалі за «сакрыццё даходаў ад падатковых органаў», прытрымалі за кратамі 5 месяцаў, пасля чаго выпусцілі на волю. А ўлетку мінулага года маёмасць прадпрыемстваў холдынга «Конта» – «Конта-аўта», «Конта-інвест» і інш. – была канфіскаваная на карысць дзяржавы.

Гэта было сігналам іншым прадпрымальнікам: час пераводзіць бізнес у іншыя краіны. У выніку беларускія грошы працуюць дзе заўгодна, але толькі не ў Беларусі. І новыя працоўныя месцы ствараюцца па-за калючым дротам беларускай мяжы.

Цяпер вось сумнавядомыя дэкрэты адмененыя. Але ці значыць гэта, што ў Беларусі сапраўды пачынаецца эканамічная лібералізацыя, абяцаная А.Лукашэнкам напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў? Пра гэта мы гутарым з прэзідэнтам Саюза прадпрымальнікаў Беларусі, вядомым навукоўцам Аляксандрам Патупам:

– Я разглядаю саму адмену 40-га дэкрэта як выключна станоўчы фактар. Я б назваў яго першым крокам да вылечвання. Ужо ідзе хваля лібералізацыі – але замест таго, каб шмат пра яе казаць, трэба пачынаць дзейнічаць.

Сэнс 40-га дэкрэта вядомы – канфіскацыя маёмасці без суда і следства. Але трэба адзначыць, што ягоная адмена – гэта толькі палова або нават чвэрць кроку. На маю думку, наш аматар усё каментаваць мог бы знайсці пару хвілінак на тэлебачанні – і публічна выбачыцца перад айчыннымі прадпрымальнікамі за тую шкоду, якую ім нанёс гэтым дэкрэтам. Прынесці прабачэнні і за тыя тэлефанаграмы, якія на паўгады забаранялі ліцэнзаванне і перарэгістрацыю.

***– Спадар Аляксандр, як вы мяркуеце: адмена дэкрэта – гэта пачатак сапраўднай лібералізацыі ці нейкі тактычны крок?***

– Насамрэч, лібералізацыя ў Беларусі можа пачацца толькі пасля з'яўлення заканадаўчых гарантыяў, якія б забаранілі дэкрэтна-ўказнае рэгуляванне ў эканамічнай сферы, увялі б мараторый на тыя дэкрэты і ўказы, якія пагаршаюць эканамічныя ўмовы для бізнесу. Інакш назаўтра можа з'явіцца новы саракавы дэкрэт.

*Заканчэнне на стар.3*

## Беларусь заводзіць у тупік?

Сёння і заўтра ў Вільнюсе за зачыненымі дзвярыма Палітычны камітэт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы чарговы раз вяртаецца да «беларускага пытання». Пасля неканстытуцыйнага рэферэндуму 1996 года ў студзені 1997 года ПА СЕ «замарозіла» статус Беларусі «спецыяльна запрошанага» ў арганізацыі. Нягледзячы на распрацоўку так званай «Пакрокавай стратэгіі для Беларусі», ПА СЕ дагэтуль не мае дакладнага сцэнарыя, якім чынам развіваць стасункі з Беларуссю пасля прэзідэнцкіх выбараў, прызнаных недэмакратычнымі.

Меркавалася, што на выязное паседжанне Палітычнага камітэта паедуць дзве дэлегацыі – ад Нацыянальнага сходу і апазіцыі. Кансультатыўны савет апазіцыйных палітычных партыяў нават сфарміраваў дэлегацыю ў складзе старшыняў АГП Анатоля Лябедзькі, БСДГ Станіслава Шушкевіча і першага сакратара ЦК Партыі камуністаў Беларускай Сяргея Калякіна. Аднак рашэнне правесці паседжанне за зачыненымі дзвярыма Паліткамітэт прыняў яшчэ раней. Тым не менш, КСАПП разаслаў 15 сябрам Паліткамітэта ўхвалены ўласны сцэнар «Пакрокавай стратэгіі для Беларусі». Дакумент дэкларуе, што асновай далейшых дэмакратычных рэформаў маглі б стаць чатыры вядомыя ўмовы АБСЕ: прыняццё дэмакратычнага выбарчага заканадаўства, прадастаўленне апазіцыі доступу да дзяржаўных СМІ, найперш электронных, наданне парламенту рэальных паўнамоцтваў і стварэнне клімату даверу.

*Заканчэнне на стар.3*

## Лукашэнка не дазволіць!

Улады не маюць намеру дазваляць камусьці ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі. Такі тэзіс выказаў, выступаючы 16 лістапада на нарадзе з актывам Мінска і Мінскай вобласці, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. «Мы далей не можам дазволіць каму б там ні было ўмешвацца ў нашы ўнутраныя справы», – заявіў ён. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, «сёння некаторыя замежныя ўрадавыя і няўрадавыя арганізацыі і дзяржавы плануюць каласальную падтрымку тым сілам, якія ўжо спрабуюць дэстабілізаваць абстаноўку ў нашай краіне пасля выбараў». Лукашэнка заявіў: «Мы на гэта будзем рэагаваць так, як бы на гэта адрэагавалі ў ЗША і ў іншых заходніх дзяржавах (размова, мабыць, ідзе пра негатыўную рэакцыю ўладаў на падтрымку Захадам беларускай апазіцыі. – **БелаПАН**). У рэшце рэшт, трэба ўмець прыгожа прайграваць. Гэта датычыцца і Захаду, і нашай унутранай апазіцыі».

Прэзідэнт таксама заявіў, што «тая невялікая частка насельніцтва, што пастаянна спрабавала дэстабілізаваць абстаноўку і нібыта ўціхамірылася, на самай справе не супакоілася». «Сёння ідзе перагрупоўка сіл, сёння асобныя палітыкі, якія нікога і нічога не прадстаўляюць, спрабуюць зноў навязаць нейкі перамоўны працэс прэзідэнту, а пра ўрад ужо не гавораць, як быццам яго не існуе», – сказаў Лукашэнка. Весці перамовы з апазіцыяй кіраўнік дзяржавы не мае намеру: «Аб чым перамаўляцца?».

**Алег САКАЛОЎ**

## У чаканні афганцаў

Кіраўнік Дзяржаўнага камітэта памежных войскаў Беларусі Аляксандр Паўлоўскі прагназуе павелічэнне на беларускіх межах колькасці нелегальных мігрантаў з Афганістана пасля завяршэння антыталібскай аперацыі Паўночнага альянсу і ЗША. Апошнім часам афганцы і так складаюць асноўную частку ўцекачоў, што прыязджаюць у нашую краіну.

## Ураганная шкода

Ураган, што абрынуўся на Беларусь на мінулым тыдні, больш за ўсё нанёс стратаў Міншчыне. Тут пацярпела звыш 200 населеных пунктаў. Усяго, як паведаміла міністэрства надзвычайных сітуацыяў, у нашай краіне пацярпелі 460 гарадоў і мястэчак.

## 105 гадоў першаму мінскаму тэлефону

Днямі споўнілася 105 гадоў з таго часу, як у Мінску адкрылася першая гарадская тэлефонная станцыя на 100 нумароў. Да тэлесеткі тады былі падключаныя 53 абаненты, агульная працягласць ліній склала 12 кіламетраў. Мільённы кватэрны тэлефон быў падключаны ў сталіцы яшчэ ў 1989 годзе.

## Васілюк хоча з'ехаць з Масквы

Футбаліст зборнай Беларусі Аляксандр Кульчы стаў лепшым гульцом першай лігі чэмпіянату Расіі па футболе. Прычым вызначэнне лепшага па такой намінацыі наогул адбылося ўпершыню. А яшчэ адзін беларус Раман Васілюк заявіў, што хоча пакінуць маскоўскі «Спартак». Ён нават папрасіў трэнера мінскага «Дынама» Эдуарда Малафеева ўзяць яго ў Мінск.

## Выратаваныя мільярды

Сёлета ахвярамі пажараў ды іншых надзвычайных сітуацыяў сталі 850 чалавек. Усяго супрацоўнікі МЧС Беларусі каля 11 тысяч разоў выязджалі ліквідаваць самыя розныя бедствы. Страты ад іх нанесеныя ў памеры 8 мільярдаў рублёў. Выратавана каштоўнасцяў на суму 9 мільярдаў 400 мільёнаў рублёў.

## Новыя прывакзальныя аб'екты

Бліжэйшым часам у вакзальным комплексе беларускай сталіцы будзе завершана будаўніцтва шэрагу новых аб'ектаў. Так, да канца гэтага года з'явіцца новае інфармацыйнае табло з боку Паўднёвай плошчы (там, дзе вуліца Дружная). Апрача таго, будзе здадзены і падземны пераход, які будзе звязваць вакзал і Дружную. Стары пераход плануецца рэканструяваць.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1540**

# АБСЕ супраць ізаляцыі Беларусі

*23 лістапада з азнаямленчым візітам Мінск наведае дэлегацыя Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Новы кіраўнік Рабочай групы па Беларусі ПА АБСЕ – дэпутатка Бундэстага Ута Цапф, прызначаная на гэтую пасаду замест прэзідэнта ПА АБСЕ Адрыяна Севярына. А 25 лістапада ў беларускую сталіцу прыедзе сябра групы, адзін з кіраўнікоў Сацыял-дэмакратычнай партыі Швецыі Урбан Алін – для правядзення папярэдняга маніторынгу ўнутрыпалітычнай сітуацыі.*

Адзначым, што абодва парламентары з'яўляюцца сябрамі сацыял-дэмакратычных партыяў і падтрымліваюць цесныя сувязі з БСДП (Народная Грамада). Таму гэты візіт для Уты Цапф – першы ў новай ролі, але далёка не адзіны ў нашую краіну. Праўда, дата візіту канчаткова не зацверджаная: 23-25 лістапада ў Мінску пройдзе сумесная германа-беларуская канферэнцыя «Мінскі форум», арганізаваная сацыял-дэмакратычнымі партыямі абедзвюх краінаў, на які Ута Цапф вельмі хацела б патрапіць.

У першым інтэрв'ю службе радыё «Свабода» Ута Цапф заявіла, што яна супраць міжнароднай ізаляцыі Беларусі: «Я супраць палітыкі ізаляцыі. Аднак лічу, што Беларусь і сама павінна зрабіць крокі ў напрамку, каб ізаляцыя была пераадолена», – сказала нямецкая дэпутатка.

Ута Цапф заявіла, што выступае «за перманентны і субстанцыйны дыялог з рознымі сіламі». Пры гэтым кіраўнік Рабочай групы па Беларусі падкрэсліла, што «сапраўдныя палітыкі павінны думаць пра пэўны баланс, адчуваць на ўзроўні кончыкаў пальцаў месца паміж санкцыямі, ізаляцыяй і дыялогам».

Варта прыгадаць, што 18-23 лістапада ў Германіі пройдзе з'езд Сацыял-дэмакратычнай партыі, на які запрошаны старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікола Статкевіч і былы адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык. Відавочна, што абодва палітыкі скарыстаюць магчымасць і сустрэнуцца ў тым ліку і са спадарыняй Цапф, каб выкласці ёй уласнае бачанне ўнутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі.

Наступным разам Ута Цапф прыедзе ў складзе Рабочай групы па Беларусі ПА АБСЕ ўжо ў студзені наступнага года. Тады дэлегацыя будзе сустракацца з прадстаўнікамі афіцыйнага Мінска, апазіцыяй, «трэцім сектарам», амбасадарамі Еўрапейскага Саюза і з прэсай з прыцэлам «стварыць такую агульную карціну, што ўяўляе сабой Беларусь».

**Якуб АДАМОВІЧ**

# Слуханні па Курапатах

Сёння ў Мінску грамадская ініцыятыва «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» арганізуе грамадскія слуханні па далейшым лёсе ўрочышча Курапатаў – месцы пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Беларуская грамадскасць мае шанц сустрэцца з прадстаўнікамі дзяржаўных установаў, якія тым ці іншым кшталтам далучаныя да рэканструкцыі Мінскай кальцавой дарогі. Канфлікт уладаў і грамадскасці якраз і палягае ў тым, што пашырэнне Мінскай кальцавой дарогі праходзіць па касцях загінуўшых. Прычым у парушэнне дамовы з Інстытутам гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук унітарнае прадпрыемства «Магістральаўтадар» перасягнула 15-метровую дэмаркацыйную паласу з боку Курапатаў, дзе будаўнічыя работы ўвогуле не павінны былі праводзіцца.

Таму, відаць, асноўнымі дзеючымі асобамі на грамадскіх слуханнях мусяць стаць дырэктар «Магістральаўтадара» Аляксей Фёдараў, выканаўца абавязкаў дырэктара Юрый Масюк. Апрача таго, на сустрэчу з грамадскасцю запрошаныя дырэктар інстытута «Мінскград» Аляксандр Калантай, в.а.дырэктара Інстытута гісторыі НАН Мікалай Сташкевіч, старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрый Бубноўскі, міністр культуры Леанід Гуляка, прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі ды мінскі граданачальнік Міхаіл Паўлаў. У спісе запрошаных значацца дыпламатычныя прадстаўніцтвы, акрэдытаваныя ў Мінску, прадстаўніцтва ААН ды КНГ АБСЕ.


Фота Ул.ШЛАПАКА
Дарожны насып МКАД ужо падступіў да самага ўваходу ў мемарыял

**Аддзел інфармацыі**

# Беларусь заводзіць у тупік?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Канстатуючы, што «самаізаляцыя краіны супярэчыць інтарэсам беларускага народа», КСАПП прапануе Палітычнаму камітэту пяць крокаў паступовага вяртання Беларусі ў еўрапейскую прастору. Кансультатыўны савет рэанімуе ідэю перамоўнага працэсу з уладамі пры пасрэдніцтве КНГ АБСЕ і «еўрапейскай тройкі» дзеля падрыхтоўкі глебы для правядзення дэмакратычных выбараў у мясцовыя Саветы і парламент па стандартах АБСЕ. Другім крокам апазіцыі бачыцца «развіццё адносінаў з Беларуссю па формуле «мінус два»: афіцыйныя кантакты ажыццяўляюцца з усімі, акрамя А.Лукашэнкі і Нацыянальнага сходу як органа ўлады». Не прызнаючы Нацыянальны сход за дэмакратычны парламент, КСАПП, тым не менш, раіць «падтрымліваць кантакты і адносіны з яго асобнымі прадстаўнікамі і групамі».

Пасля правядзення свабодных выбараў у мясцовыя Саветы і парламент еўрапейскай супольнасці прапануецца падтрымліваць з імі кантакты; і толькі пасля таго па стандартах АБСЕ мусяць прайсці прэзідэнцкія выбары.

Лідэр ПКБ Сяргей Калякін упэўнены, што «беларускае пытанне» завяло Палітычны камітэт у тупік. «Я думаю, пытанне пра аднаўленне статусу «спецыяльна запрошанага» ўздымацца не будзе. Паліткамітэт сам не ведае, што далей рабіць: у ПА СЕ ёсць шэраг рашэнняў, якія найперш трэба адмяніць, каб пайсці па шляху легалізацыі правячага рэжыму. У ПА СЕ, дзе прадстаўленыя абсалютна розныя палітычныя сілы, дастаткова часта прымаюцца не юрыдычна выверанаыя рашэнні, а палітычныя», – падкрэсліў С.Калякін.

Справа ў тым, што, паводле працэдуры ПА СЕ, для аднаўлення статусу трэба, каб свае рэкамендацыі на гэта далі тры з пяці пастаянных камітэтаў ПА СЕ, сярод якіх і Палітычны камітэт. Аднак такіх рэкамендацыяў пакуль не існуе.

**Рыгор БУЯН**

# Цень лібералізацыі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Усе дакументы, датычныя эканомікі, мусіць прымацца на ўзроўні парламента, пасля абмеркавання з усімі зацікаўленымі бакамі. Неабходна падвысіць узровень гарантыяў бізнесу.

***– Ці маеце вы статыстыку па канкрэтных ужытках гэтага дэкрэта, аб памерах шкоды, нанесеных нашым або замежным прадпрымальнікам?***

– Дэкрэт №40 сапраўды нанёс вялікую шкоду бізнесу. Ягоныя дзеянні я б параўнаў з выбухам на ўсіх нафтахімічных прадпрыемствах Беларусі, ён горшы за дзеянні ўсіх варожых выведак.

Па маіх звестках, дэкрэт ужываўся толькі 4 разы, з якіх самы, мусіць, вядомы – гэта справа Віктара Лагвінца. Да Тамары Віннікавай, здаецца, яго таксама ўжывалі. Але нават калі б ён не ўжываўся ніводнага разу, то і тады б памер той шкоды, якую ён нанёс, быў бы такі ж значны. Па маіх ацэнках, гэта сотні мільёнаў долараў.

Дэкрэт назаўсёды закрыў пытанне для сур'ёзнага бізнесу аб магчымасці ўкладання грошай у Беларусі. Бізнесмены пачалі выводзіць свае прадпрыемствы і грошы за межы Беларусі.

Кіраўнік дзяржавы вельмі любіць хадзіць на публіцы ў праваслаўныя храмы. Але тое, што ён можа зрабіць сапраўды па-хрысціянску – гэта прызнаць сваю адказнасць і прынесці прабачэнні.

***– Як вы лічыце, ці павераць цяпер прыватны бізнес у шчырасць абяцанняў Лукашэнкі?***

– Сур'ёзны бізнес, у адрозненне ад простага чалавека, заўсёды даследуе пытанне аб гарантыях. Ён нікому не верыць на слова. Пакуль станоўчай рэакцыі ў яго быць не можа, бо няма ніякіх гарантыяў.

Адзначым дзіўнае супадзенне: адмена рэпрэсіўнага дэкрэта адбылася літаральна напярэдадні слуханняў па праблемах прадпрымальніцтва у Палаце прадстаўнікоў, запланаваных на 20 лістапада. Мэтай слуханняў ставіцца выпрацоўка рэкамендацыяў ураду па паляпшэнні прадпрымальніцкага клімату ў Беларусі. Асноўную ўвагу плануецца надзяліць пытанням рэгістрацыі прадпрыемстваў, ліцэнзавання і падаткаабкладання. Удзел у слуханнях возьмуць самі дэпутаты «палаткі», члены ўрада, прадстаўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі, а таксама больш за 100 прадпрымальнікаў з усёй Беларусі.

Пры гэтым, слуханні першапачаткова планавалася правесці менавіта 16 лістапада, у пятніцу, але потым іх перанеслі. Магчыма, што якраз з мэтай даць бізнесу асэнсаваць «падарунак» улады.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**ПРАГНОЗЫ**

# Бульба не ўрадзіла

Аграпрамысловы комплекс Беларусі чакае рэфармаванне. Ва ўсякім разе, міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання разам з Саветам міністраў рыхтуюцца падаць праграму рэфармавання на зацвярджэнне Аляксандру Лукашэнку. Рэч у тым, што ледзь не кожны калгас і саўгас – стратны, і колькасць такіх сельгаспрадпрыемстваў павялічваецца год ад года.

Напярэдадні Дня работнікаў сельскай гаспадаркі і харчавання два намеснікі міністра – Анатоль Рубанік ды Мікалай Папкоў – адрапартавалі пра сёлетнія поспехі аграрна-прамысловага комплексу.

Анатоль Рубанік у сваім выступленні зрабіў упор на выкананне дзяржаўнага заказу ў раслінаводстве. Сёлета хлебаробы сабралі каля 5,3 мільёна тонаў чыстага зерня, валавая вытворчасць зерня склала каля 6 мільёнаў тонаў. Нягледзячы на тое, што так званую «харчовую бяспеку» сяляне забяспечылі, планаваных 7 мільёнаў тон збожжа сабраць не ўдалося, а таму А.Лукашэнка «пытаецца, дзе абяцаныя 7 мільёнаў тонаў». Ізноў у якасці адной з галоўных прычынаў недабору збожжа называюцца дрэнныя прыродныя ўмовы: перад самым жнівом з-за спякоты на поўдні ўраджай згарэў. Збожжа саспела адначасова ў Брэсцкай і Віцебскай абласцях, але з-за належнай непадрыхтаванасці сяла мноства камбайнаў прастойвалі. Карацей, 12-15% збожжа страчана. За недаатрыманыя грошы можна было б набыць 2.500 камбайнаў. Але, як кажа А.Рубанік, гэта «рэаліі сённяшняга дня»: усе вобласці, за выключэннем Віцебскай, выканалі планавыя наказчыкі па зерню.

«Няважны год сёлета для бульбы. У грамадскім сектары пасевы бульбы займаюць каля 80 тысячаў гектараў, ці 17% усіх пасеваў. І прыкладна 660-800 тысячаў гектараў займаюць пасевы на прысядзібных участках насельніцтва. Праблема ў тым, што асноўная маса бульбы сёння прадстаўлена больш агародніцтвам, а не прамысловай вытворчасцю», – гаворыць А.Рубанік. Усяго бульбы накапалі каля 7 мільёнаў тонаў, прычым грамадскі сектар даў каля 900 тысячаў тонаў бульбы – гэта менш, чым летась.

Зусім кепска ідзе льнаводства. Беларусь мусіць атрымліваць каля 50 тысячаў тонаў ільну, аднак сёлета ўдасца сабраць толькі каля 31,5 тысячаў тонаў. Аршанскі льнозавод не можа купляць валакно па сусветных цэнах (1.500-1.600 долараў за тону), а дзяржаўных датацыяў не хапае для пераўтварэння льнаводства ў рэнтабельную вытворчасць. Анатоль Рубанік падкрэсліў, што гэтая галіна патрабуе дзяржаўных датацыяў.

Фінансавыя вынікі адыходзячага года надзвычай песімістычныя. Сёлета ажно 1.272 калгасаў і саўгасаў (з прыкладна 2,5 тысячаў) былі прызнаныя стратнымі. Колькасць прыбытковых прадпрыемстваў скарацілася да 942.

Мікалай Папкоў адзначыў, што да новага года «кошты на прадукцыю жывёлагадоўлі будуць забяспечваць рэнтабельнасць вытворчасці». Гэта значыць, што, па разліках міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, закупачныя цэны на малако складуць 170 рублёў, яны вырастуць у паўтара раза. За свініну будуць даваць 1.500 рублёў, за ялавічыну – 1.050-1.080 рублёў. Адпаведна ўзрастуць цэны на гэтыя тавары ў гандлі.

**Ягор СУМНЫ**

# Асьцярожныя павароткі ідэалёгіі

Падаецца, ідэалягічны накірунак у вышэйшых эшалёнах улады адыходзіць на другі плян. Адразу ж пасьля перамогі Лукашэнкі на выбарах быў вызвалены ад пасады галоўны прэзыдэнцкі ідэоляг і, бадай, самая адыёзная асоба ў атачэньні Лукашэнкі – палкоўнік Замяталін.

У Адміністрацыі прэзыдэнта ідэалёгіяй цяпер будзе апекавацца ня першы намесьнік кіраўніка Адміністрацыі, як раней сумнавядомы Замяталін, а чыноўнік у рангу памочніка. Іван Карэнда прызначаны памочнікам прэзыдэнта – начальнікам Галоўнага ідэалягічнага ўпраўленьня Адміністрацыі прэзыдэнта. З адукацыі ён – настаўнік: скончыў Гарадзенскі пэдагагічны інстытут.

Пасьля Вышэйшай камсамольскай школы Іван Карэнда працаваў загадчыкам аддзелу «Чырвонай зьмены», затым на розных пасадах у камсамоле й партыі. У 1992-94 гадох быў намесьнікам міністра культуры й друку, потым, цягам двох гадоў, – намесьнікам міністра культуры. Апошнія пяць гадоў спадар Карэнда працаваў у апараце выканкаму саюзнай дзяржавы Беларусі й Расеі.

Спадар Карэнда – сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, ён – аўтар трох зборнікаў вершаў. Творыць – азначым – на роднай мове. Варта спадзявацца, што хоць частка справаводзтва й дакумэнтаў будзе выходзіць з прэзыдэнцкай Адміністрацыі па-беларуску.

Два новыя намесьнікі зьявіліся й у старшыні Нацыянальнае тэлерадыёкампаніі. Аляксандар Саламаха стаў намесьнікам у справах радыё, Васіль Манюк – першым намесьнікам па тэлевізіі.

Васіль Манюк – з адукацыі выкладчык, скончыў фізыка-матэматычны факультэт Берасьцейскага пэдагагічнага інстытуту.

Колькі гадоў таму спадар Манюк ачоліў Берасьцейскі абласны камітэт па тэлебачаньні й радыё. Як прызнаўся мне адзін берасьцейскі журналіст-газэтчык зь незалежнага выданьня, менавіта за Манюком мясцовае тэлебачаньне можна стала глядзець. Цікавыя праграмы, аб'ектыўныя разнастайныя навіны – і пра пікеты, акцыі пратэсту, і пра ўсялякія папярэджаньні ды суды «Брестского курьера»...

У Доме Радыё ў Менску прызначэньне Аляксандра Саламахі ўспрынялі з энтузіязмам. Перш за ўсё, літаральна ўсе супрацоўнікі Радыё – ад вядучых журналістаў да тэхнічнага пэрсаналу – уздыхнулі з палёгкай: урэшце рэшт зьнялі Ўладзімера Ядранцава, які выявіўся адною з самых вычварных істот у асяродку Лукашэнкі.

Аляксандар Саламаха з адукацыі журналіст, працаваў у газэтах. Апошнія тры гады працаваў у прэсавай службе Адміністрацыі прэзыдэнта, потым ачольваў Галоўнае ўпраўленьне грамадзка-палітычнай інфармацыі.

Аднак нічым адметным спадар Саламаха грамадзкасьці не запомніўся. Таму журналісты дзяржаўнага радыё, як і тэлевізіі, цяпер настроены аптымістычна.

Што ж да лёсу Аляксандра Зімоўскага, то незалежныя мэдыі, здаецца, пасьпяшаліся паставіць крыж на ягонай кар'еры. Ад пасады намесьніка старшыні Белтэлерадыёкампаніі, якую ён займаў да цяперашняга часу, Зімоўскага ніхто не адхіляў.

Безумоўна, ці спраўдзяцца кволыя надзеі на лепшае тэле- й радыёжурналістаў, вядома стане крыху пазьней.

**Іна СТУДЗІНСКАЯ**
**Радыё «Рацыя»**

**ВОЙСКА**

# Шаг к общей армии

В Минске успешно завершились переговоры, которые радикально повышают уровень российско-белорусского военного сотрудничества. Заместитель главкома ВВС РФ генерал-лейтенант Юрий Бондарев и командующий войсками ПВО Беларуси генерал-лейтенант Валерий Костенко согласовали документы, которые предусматривают создание Единой региональной системы (ЕРС) ПВО двух государств.

Ожидается, что в конце ноября на совместной коллегии военных ведомств двух государств подготовленные проекты будут утверждены. Основным из них станет Соглашение о совместной охране границы Союзного государства в воздушном пространстве и создании ЕРС.

Военные обеих стран уже несут совместное боевое дежурство и в автоматизированном режиме обмениваются информацией о воздушной обстановке.

По существу, Москва и Минск на случай внешней агрессии создают коалиционную группировку, в которую войдут практически все соединения и части России и Беларуси, дислоцированные в восточноевропейском регионе. В военное время, а также, по армейской терминологии, в угрожаемый период ЕРС будет передана вся полнота власти и ответственности в воздушном пространстве.

В мирное время роль ЕРС сводится к наблюдению за воздушным пространством, защите внешней границы, контролю за соблюдением установленного порядка в небе. При этом значительную роль в управлении силами и средствами ПВО сохранят российские и белорусские центральные командные пункты.

Возглавлять ЕРС будет командующий, назначаемый Высшим государственным советом Союзного государства по представлению министров обороны РФ и РБ. Его рабочим органом должна стать оперативная группа, в которою войдут офицеры обоих государств.

Параллельно войска ПВО Беларуси будут объединены с ВВС, и вооруженные силы страны приобретут характерную для большинства современных армий трехвидовую структуру.

Военно-политическое руководство России рассчитывает, что примеру Минска последуют и другие государства, входящие в ОС ПВО СНГ. Речь, например, может идти об Армении и Казахстане.

Кроме того, хотя военные уклоняются от обсуждения этой проблемы, создание ЕРС ПВО призвано продемонстрировать некоторые варианты российского ответа на новый тур расширения *NATO*.

**Сергей СОКУТ**
**Ng.ru**

# Музыка беларускай свядомасці

## 20 лістапада прагучыць опера «Дзікае паляванне караля Стаха», прымеркаваная да 50-годдзя вядомага спевака Віктара Скарабагатава

***— Спадар Віктар, напачатку прыміце мае і завочна чытацкія віншаванні з 50-годдзем. А вось ці даўно вы ў высокім музычным мастацтве?***

— Наступнай вясной ужо будзе 33 гады. Мне было 17 гадоў, калі я трапіў у прафесійны калектыў. Гэта быў ансамбль песні і скокаў Балтыйскага флоту. Адбылося гэта знянацку. Тагачасны кіраўнік ансамбля сябраваў з мінскімі музыкамі, і аднойчы прыехаў сюды набіраць новых людзей да сябе. А я тады быў студэнтам першага курса музычнай вучэльні. Ён, праслухаўшы мяне, прапанаваў: «Паехалі служыць. Вось зараз». Бацькі далі згоду, я сеў у цягнік і паехаў у Калінінград. Ансамбль гэты на той момант быў вельмі моцны, была дужа прыдатная творчая атмасфера. Наш тагачасны мастацкі кіраўнік Зіновій Масарскі, цяпер прафесар Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, родам з Віцебскай вобласці. Неяк ён сказаў мне: «Давай «Купалінку» паспяваем». А я не ведаў — дзіця асфальту. Гэта цяпер я ведаю беларускую музыку лепей за многіх-многіх. Два дні мы займаліся тэорыяй музыкі, два – сальфеджыо. Выязджалі на гастролі ў Вятку, мастацкі кіраўнік браў аўтобус і вёз нас у Воткінск, радзіму Чайкоўскага. Былі ў Лейпцыгу — вёў у Томаскірхе, дзе працаваў Бах.

***— Можна лічыць, што ў арміі вы вучобы не перапынілі?***

— Ну, так. І калі вярнуўся, адразу паступіў у кансерваторыю, не скончаючы вучэльні. Ужо са сцэнічным вопытам і замежнымі гастролямі. На 3 курсе я выканаў ролю графа ў «Вяселлі Фігаро», і тое было неяк ужо натуральна. Мне пашанцавала, што ў маладосці быў звязаны з людзьмі, якія нешта ўклалі ў мяне. У тым ліку і сябры. Напрыклад, Кір'янаў Вячаслаў, калекцыя кружэлак выдатных спевакоў, операў, кампазітараў якога была ці найлепшая ў Піцеры. Мой аднагодак, ён ведаў у 100 разоў больш, чым я, і мяне да слухання музыкі наблізіў.

***— У многіх вушы класічную музыку ўкласці надзвычай цяжка, і яна на ўсё жыццё застаецца адрынутай і выпхнутай з дыскаў і кружэлак іншым.***

— Тыя ж сімфоніі і санаты ў пэўны час былі музыкай для баўлення часу. А опера – наогул самы дэмакратычны жанр. Праўда, калі выконваецца для людзей, а не для сябе. Навошта выконваць на мове арыгіналу оперы, калі публіка іх не разумее. Але тады навошта выконваць? Ну, вы прыйдзіце, а я пачну вам спяваць што-небудзь (спявае нешта па-італьянску. – **К.П.**). Што вы зразумелі?

***— На вашую думку, праграмкі недастаткова? А калі разгорнутую праграмку даваць?***

— Так і робяць – у «Ковент-Гардэне», Ла Скала. Я там сам вучыўся і бачыў. Там у праграмцы даюць поўныя тэксты на мове арыгіналу і на роднай мове слухачоў. У нас гэта на маёй памяці было адзін раз. Калі была пастаўленая «Тоска» Пучыні, далі лібрэта на беларускай мове цалкам. Самы лепшы варыянт: мусіць быць такі інтэрнацыянальны тэатр, які працуе на мове арыгіналу з адпаведнымі праграмкамі ці бягучым радком над сцэнай на мове народа, які глядзіць гэтую оперу, другі тэатр – цалкам на мове гэтага народа. Так робяць у свеце. Наогул нармальная еўрапейская сталіца павінна мець 4-5 оперных тэатраў. У Берліне іх 6, у Нью-Йорку – 7, у Мілане – 4.

***— У нас пакуль адзін тэатр оперы. І беларускамоўная опера тут – «Дзікае паляванне караля Стаха» — таксама адна, і тая ідзе нерэгулярна.***

— Ну, спектакль гэты ўжо немалады. Каб ішоў рэгулярна, трэба ўводзіць у пастаноўку новых выканаўцаў. Гэта ў планах ёсць. А зараз пакуль што працуе яшчэ той склад, што больш за дзесяць гадоў таму спяваў прэм'еру.



Фота Ул.ШЛАПАКА

***— А што замінае паказваць «Фаўста» Антонія Радзівіла?***

— Рэч у тым, што ў гэтай антрэпрызе задзейнічана вельмі багата людзей, прычым усе яны з розных калектываў, у кожнага свой графік працы. Сцэна ж Опернага тэатра заўжды занятая: адзін дзень — пад операй, другі – пад балетам. Як падгадаць, каб усе артысты былі на месцы і вольныя, а балетныя і оперныя трупы на гастролях? Шкада, канечне, што «Фаўст» не ідзе, бо вельмі ж удала атрымалася. Мы здолелі зрабіць тое, чаго болей за сто гадоў не маглі зрабіць у еўрапейскіх тэатрах – паказаць спектакль цалкам. Нямецкія музыказнаўцы казалі, што ўсе спробы, якія былі ў Германіі, – гэта «хатнія радасці». Сама большае – 10 карцін з «Фаўста». А мы паказалі ўсе 24. Немцы былі ашарашаныя тым, што пабачылі і пачулі.

***— А як часта «Беларуская капэла» знаходзіць старажытны беларускі музычны матэрыял, і колькі часу займае ягонае аднаўленне і ператварэнне ў слухальны твор?***

— Па-рознаму бывае. Ёсць, напрыклад, у нас адзін твор Восіпа Казлоўскага, які гучаў усяго адзін раз за ўсю сваю гісторыю. Ён знойдзены ў Санкт-Пецярбургу. Чаму ў Расіі не звяртаюць увагу на гэты твор, не ведаю. Паверце, па мастацкай якасці ён не саступае, напрыклад, «Рэквіуму» Моцарта. Музычныя вартасці проста відавочныя. Але ёсць арганізацыйныя праблемы з дэманстрацыяй гэтага твора: яна зрывалася некалькі разоў. У наступным годзе, спадзяемся, атрымаецца. Музычны матэрыял «Фаўста» ўзнаўлялі гады з два, паўтара года працавалі з Васілём Сёмухам над перакладам лібрэта, потым патроху паказвалі ў Нясвіжы, у Доме літаратара ў Мінску і ў філармоніі... Агулам жа ад моманту знаходкі да ўвасаблення ў оперны спектакль прайшло гадоў пяць. А ёсць рэчы, якія пачынаюць гучаць хутка. Наогул на сёння мы паказалі, хоць бы па адным творы, 150 кампазітараў.

***— А пласт густоўнай беларускай музыкі, якой варта даць другое нараджэнне, яшчэ багаты?***

— Акіян.

***— Многія нашы суайчыннікі сумняюцца, што творы беларускіх кампазітараў не саступаюць замежным.***

— Не трэба метры вылічваць літрамі. Калі параўноўваць, то трэба глядзець адпаведныя эпохі. Кажуць, пакажыце геніяльныя творы?! Але геніяльнымі яны становяцца пры выкананні. Вядома, што ёсць пэўны ўзровень геніяльнасці кампазітарскай. Але ж музыка – гэта гукі, а не рэчы і ноты. Ноты – гэта толькі запрашэнне да музыкі, першая прыступка ў ланцугу «стваральнік музыкі–выканаўца–слухач». Без апошніх двух усё не мае аніякага сэнсу. Мы даводзім усё да лагічнага канца, гэта становіцца здабыткам спачатку нашай гісторыі, потым часткай свядомасці. «Беларуская капэла» зрабіла многа, але гэта толькі пачатак. Ёсць шмат цяжкасцяў. Напрыклад, заснуем мы тэатр, дзе будуць толькі беларускія оперы, але ў 18-ым стагоддзі іх было 11, у 19-ым – болей, але кожная партытура патрабуе карпатлівай працы, там было ўсё па-нямецку, па-польску, па-французску – трэба перакласці на беларускую мову. Але наступным пакаленням будзе прасцей. Яны ўжо ведаюць, што ёсць Напалеон Орда, Станіслаў Манюшка, Флярыян Міладоўскі, урэшце, Міхал Клеафас Агінскі, якому стаіць помнік у Маладзечне. Я адмыслова падышоў і спытаў у людзей, а хто гэта стаіць? Яны мне: «Як, вы не ведаеце? Гэта Міхал Клеафас Агінскі!» Яшчэ гадоў 10 таму гэтыя самыя людзі мне так не адказалі б.

***— Памятаецца, на сёлетнім з'ездзе беларусаў свету вы прэзентавалі ў якасці гімна Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» кампіляцыйную кампазіцыю з «Полацкага сшытка». А што вы мяркуеце наконт нацыянальнага гімна ўсёй Беларусі?***

— Спецыяльна гімны не пішуцца. Уявіце сабе, што падумаў бы Йозеф Гайдн, калі б даведаўся, што частка ягонага фа-мажорнага смыковага квартэта ёсць гімнам Германіі? Ён не пісаў гімна, ён пісаў смыковы квартэт. Прайшоў час, калі гэтая музыка стала часткай генетычнага кода немцаў. Яна замацавался ў іхняй свядомасці як святыня і стала гімнам. З гімнам Польшчы тое самае: Агінскі пісаў баявую песню паўстанцаў 1794 года, якую праз сто гадоў узялі ў якасці гімна. Толькі твор, які пройдзе такі шлях, мае права быць гімнам. Выйдзіце на вуліцу і спытайце, хто ведае ці хоць бы чуў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», хто чуў «Магутны Божа»? Полацкі сшытак ведаюць усе. Бо яго выкарыстоўваюць дзе трэба і дзе не трэба. Матэрыял з «Полацкага сшытка» штодня гучыць па радыё і на тэлебачанні. Ёсць усведамленне, што гэта нашая музычная гістарычная спадчына. У нас старажытныя герб і сцяг, і гімн таксама не мусіць быць новаробкай.

**Гутарыў Кірыла ПАЗЬНЯК**

# З Купалаўскага тэатра прыбіраюць Купалу

*Рэпрэсіяў у Беларусі за Лукашэнкам зазнаюць у тым ліку і творы мастацтва: у апале апынуўся спектакль Нацыянальнага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Тутэйшыя».*

У мінулыя сераду ды чацвер, 14 і 15 лістапада, у Купалаўскім мусіла двойчы прайсці гэтая пастаноўка рэжысёра Мікалая Пінігіна паводле аднайменнай п'есы Янкі Купалы. Аднак за пяць гадзінаў да пачатку спектакля нечакана было абвешчана, што ён не адбудзецца. Гледачам давялі, што «па тэхнічных прычынах», а замест гэтага прапанавалі паказаць «Свае людзі – паладзім» Астроўскага. Дзесяткі людзей гэта не задаволіла, і яны здалі квіткі.

Артысты Купалаўскага тэатра, занятыя ў «Тутэйшых», распавядаюць, што аніякіх сапраўдных «тэхнічных прычынаў» адмены спектакля не было: усе акцёры былі жывыя-здаровыя, дэкарацыі былі прывезеныя, у панядзелак прайшла рэпетыцыя. Яны згадваюць, што ранкам таго дня дырэктар тэатра Генадзь Давыдзька ездзіў у міністэрства культуры, і не выключаюць, што менавіта тады там яму было сказана, што «Тутэйшыя» з'явіцца на сцэне Купалаўскага не мусяць. «Купалаўцы» кажуць, што іхні адзін з самых улюбёных спектакляў быў «забаронены па ўсім вядомай прычыне».

Па той самай прычыне, па якой гэты без перабольшвання легендарны і знакавы спектакль (у гэтым сэнсе з ім можа параўнацца хіба толькі «Паўлінка», якой традыцыйна купалаўскі тэатр адкрывае новы сезон), быў забаронены адразу ж пасля першага паказу на гэтай самай сцэне 75 гадоў таму – у 1926 годзе. Тады цяперашні Нацыянальны дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы меў назву БДТ-1. Нідзе п'еса і не друкавалася. У «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» чытаем пра «хісткасць ідэйна творчых пазіцыяў» аўтара. У пачатку 90-ых «Тутэйшыя» былі вернутыя ў рэпертуар і абавязкова ішлі з аншлагамі. Але апошнімі гадамі спектакль увесь час на нейкі працяглы тэрмін знікаў з афішаў. Многія знаходзяць тут такую заканамернасць, што «Тутэйшыя» знікалі заўсёды пад усялякія выбары ды плебісцыты. Пацвярджае гэткае назіранне і той факт, што апошні раз спектакль па п'есе Янкі Купалы быў паказаны 9 месяцаў таму.

Паводле тлумачэнняў тэатральнай адміністрацыі «тэхнічныя прычыны», праз якія «Тутэйшых» адмянілі, — гэта зношанасць дэкарацыяў. Аднак артысты кажуць, што ўсё ў парадку. Ды і калі дэкарацыі маглі паспець знасіцца, калі спектакль так рэдка ішоў? Узнікае і другое пытанне: уявім сабе, што дэкарацыі сапраўды знасіліся, то чаму за 9 месяцаў іх ніхто так і не падумаў паладзіць-палатаць? Вось і робяць самі ж «купалаўцы» выснову, што спектакль не проста адмянілі, а забаранілі з палітычных матываў. Упоперак ідэалогіі, якую праводзяць цяперашнія беларускія ўлады, і змест п'есы, і ейная сцэнічная жыццеформа. Напрыклад, тое, што ў канцы спектакля над сцэнай уздымаецца бел-чырвона-белае палотнішча. Пасля рэферэндуму ў траўні 1995 года канцоўка «Тутэйшых», якія ўсё больш набывалі актуальнасць, стала яшчэ шматкроць сімвалічней, а ўлады ды мінкультаўскае чынавенства аўтаматам залічыла спектакль у апазіцыйныя. А як жа ж: на сцэне з люлькі выцягваліся дзве белыя і адна чырвоная прасціна, сімвалізуючая кроў расстраляных бальшавікамі, людзі ўставалі. І адначасова гэта быццам бы ўяўны нацыянальны сцяг, і не сцяг зусім. Але ўсё паблізу прэзідэнцкай рэзідэнцыі, над якой матляецца сцяг зусім іншых колераў. Вось часта падоўгу і знікалі ад гледача «трагічна-смяшлівыя сцэны», як ахарактарызаваў жанр «Тутэйшых» Янка Купала.

Цяпер, як многія апасаюцца, «Тутэйшых» наогул ужо скасавалі з рэпертуару Купалаўскага тэатра. Праўда, на пытанне аб лёсе спектакля дырэктар і акцёр тэатра Г.Давыдзька адказвае, што «Тутэйшыя» будуць ісці і надалей. Маўляў, на нядаўняй мастацкай радзе некалькі спектакляў зарэзалі, але пра «Тутэйшых» такой гаворкі не было. Аднак, усім зразумела, што калі рашэнне пра пазбаўленне ад «Тутэйшых» і прынятае, то пісьмова яно нідзе зафіксаванае не будзе.

Прыкрасці ў гэты скандал дадае яшчэ і тое, што Янку Купалу, класіка беларускай літаратуры, выціскаюць з Купалаўскага тэатра перад 120-ымі ўгодкамі з дня нараджэння паэта, якія будуць адзначацца ў наступным годзе. Улады нават прынялі афіцыйную праграму святкавання купалавага юбілею. Такія вось дэкарацыі...

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Гімназія «новага тыпу»

1 верасня 2002 года ў Мінску мае быць адчыненая беларускамоўная гімназія. Такое рашэнне сёлета 5 верасня прыняў Мінскі гарвыканкам. У рашэнні сталічных уладаў гаворыцца, што адкрыццё гімназіі з беларускай мовай навучання робіцца ў рамках пастановы Савета міністраў 28 жніўня «Аб зацвярджэнні праграмы дадатковых мераў па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі». Рашэннем мэрыя даручыла начальніку ўпраўлення адукацыі выканкама Міхаілу Ціцянкову да «1 лістапада 2001 года ўнесці прапановы па месцы размяшчэння гімназіі і яе профілю», а таксама «правесці неабходную арганізацыйную работу па стварэнні ўмоваў для адкрыцця дадзенай установы новага тыпу». Адкрыццё беларускамоўнай гімназіі — гэта беспрэцэдэнтны выпадак у Мінску за апошнія гадоў сем, калі пасля надання роўнага статусу беларускай і рускай мовам беларушчына выцяснялася з усіх сфераў жыцця.

Ідэя з адкрыццём беларускамоўнай гімназіі доўга ішла да жыцця. Каардынатар камітэта Ігар Хляба гаворыць, што яшчэ ў 1999 годзе яны звярталіся ва ўпраўленне адукацыі Мінгарвыканкама, аднак толькі перад самымі выбарамі сталічныя ўлады рашыліся на адкрыццё гімназіі ў цэнтры Мінска. І.Хляба патлумачыў, што ўсе 11 беларускамоўных школаў сталіцы знаходзяцца на перыферыі: у Зялёным Лузе, Кунцаўшчыне, карацей, дзе заўгодна, але не ў цэнтры Мінска. Цяпер ужо вядома, што новая беларускамоўная гімназія размесціцца ў сярэдняй школе №23, якая знаходзіцца паблізу плошчы Якуба Коласа — зразумела, што сюды будучым гімназістам нават дабірацца выгадней, хоць бы і з акраінных раёнаў горада.

Упраўленне адукацыі схіляецца да таго, каб зрабіць беларускамоўную гімназію з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Мінскі гарадскі бацькоўскі камітэт беларускіх школаў і садкоў, не адмаўляючы такога варыянту, прапануе засяродзіцца на двух напрамках: гуманітарным ды матэматычным. Кваліфікаваных настаўнікаў дакладных навук можна пералічыць на пальцах, хаця адпаведныя спецыялісты, якія выйдуць са сценаў гімназіі, будуць запатрабаваныя і БДУ, і іншымі ВНУ краіны.

Мінскі гарадскі бацькоўскі камітэт беларускіх школаў і садкоў ужо сёння мае вялікі спіс прэтэндэнтаў на паступленне ў гімназію. Аднак без моцнай матэрыяльна-тэхнічнай базы нават самыя лепшыя настаўнікі не змогуць даць прыстойныя еўрапейскага ўзроўню веды сваім выхаванцам. Відаць, гімназіі змогуць дапамагчы хіба што спонсары, неабыякавыя да беларушчыны, бо па ўсёй Беларусі школы маюць нікчэмную матэрыяльна-тэхнічную базу, а дзяржава нічым дапамагчы не можа.

**Рыгор БУЯН**



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Заалагічныя сустрэчы

У Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва, што месціцца ў Мінску па вуліцы Макаёнка, з кастрычніка распачаліся штомесячныя «заалагічныя сустрэчы», арганізаваныя грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Беларусі». Натуральна, што ў першую чаргу ў першы чацвер кожнага месяца на іх збіраецца вузкае кола сапраўдных аматараў і даследчыкаў прыроды. Але гэтыя «заалагічныя сустрэчы» зусім не выглядаюць як занудныя лекцыі. Напрыклад, і для мяне, чалавека, трапіўшага на адну з сустрэчаў выпадкова, знаёмага з прыродай збольшага па дакументальных серыялах, было досыць цікава паслухаць дасціпны расповед аб пінгвінах вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута заалогіі Акадэміі навук Беларусі Юрыя Гігеня кі.



Гэты чалавек паўтара года з імі пражыў «пляччо да пляча». Ён патрапіў у Антарктыду яшчэ за савецкім часам у складзе навукова-даследчай экспедыцыі і бавіў увесь гэты час на выспе сярод дзесяткаў тысячаў пінгвінаў. З ягоных успамінаў, малыя пінгвіны гучна храпяць, а дарослыя шмат ліняюць, і снег паўсюдна забруджаны іхнімі фекаліямі і пухам. Для чалавека гэта стварала дадатковыя праблемы, бо сярод салёнай марской вады прэсная заўсёды ў дэфіцыце: снег заставаўся адзінай сейнай крыніцай. Таму даводзілася растапляць і такі снег, а пасля піць ваду, больш падобную да «кававай гушчы».

Пінгвіны, па словах заолага, вельмі сяброўскія птушкі, але крыху дурнаватыя. Над імі можна праводзіць тыя ж эксперыменты, што і над казліным статкам: нацягваеш вяроўку перад важаком, і пасля таго, як ён праз яе пераскочыць, перашкоду прыбраць. Пінгвіны, як і казлы, усё роўна, паўтараючы за важаком, будуць падскокваць на тым самым месцы.

Да купання гэтыя птушкі падыходзяць з большай прадуманасцю, бо баяцца марскога леапарда, які імі харчуецца. Са словаў Юрыя Гігенякі, яму даводзілася назіраць, як яны выбіраюць сярод сябе падобных аднаго «шчасліўчыка», якога штурхаюць у ваду, і калі ён адтуль выбіраецца жывы (значыць, там няма леапарда), пачынаюць купацца там усе – з берага кідаюцца ў ваду, а потым зноў на бераг. Толькі калі пачынаецца адліў, пінгвінам цяжка зразумець, што вада з гэтага месца ўжо сышла. Яны гэтак жа настойліва скачуць з берага і, не знаходзячы вады, здзіўленыя вяртаюцца і замест таго, каб знайсці іншае месца з вадой, зноў скачуць туды ж.

Досыць цёплыя адносіны складаюцца ў Антарктыдзе ў людзей з цюленямі: нават даводзілася роды ў апошніх прымаць. Займаючыся вывучэннем падводнай флоры, члены навуковай экспедыцыі, каб патрапіць пад ваду, прарубалі ў лёдзе лункі, а над імі ставілі палаткі з печкамі. Бывала, што цюлені, часта блытаючы свае і чужыя дзіркі ў лёдзе, пралазілі ў гэтыя лункі, прыграваліся ад печкі і, застаючыся напалову ў вадзе, засыналі. А даследчыкам з-за іх ні ў ваду, ні з вады не прабрацца. Выкурыць іх адтуль можна было толькі тытунем.

Усе гэтыя расповеды заолаг аздабляў паказам слайдаў, а пасля можна было задаць яму любое пытанне. На наступную такую «заалагічную сустрэчу» можна будзе патрапіць 6 снежня а 17 гадзіне.

**Алена ЛАБАНАВА**

KNOW HOW

## «Гуманная куля» прайшла выпрабаванні

У Екацярынбургу саматужны вынаходца пенсіянер Марат Мінібаеў зарэгістраваў у абласным патэнтным інстытуце незвычайнае вынаходніцтва – «гуманную кулю». Яна не забівае, а толькі накаўціруе аб'ект стрэлу. У адрозненне ад вядомых гумавых куляў, якія шырока ўжывае паліцыя і якія іншым разам забіваюць насмерць, гэтая «гуманная куля» мае ўнутры асаблівы пластмасавы ўкладыш, дзякуючы якому яна пры сутыкненні з перашкодай расплюшчваецца і не прыносіць асаблівых пашкоджанняў сваёй ахвяры. Тым не менш, яна нейтралізуе ахвяру на час ад 2 да 5 хвілінаў.

Мінібаеў ужо выпрабаваў сваё вынаходніцтва на практыцы, калі, абараняючыся ад сабакі, які напаў на яго ў парку, стрэліў у пса сваёй «гуманнай» куляй. Стрэл пацвердзіў тэарэтычныя разлікі і даў неабходны вынік. Сабака праляжаў без руху некалькі хвілінаў, пасля чаго перапужана рынуўся на ўцёкі. Вынаходніцтва мае цалкам рэальную перспектыву быць прынятым на ўзбраенне міліцыяй, і цяпер ягоны аўтар прапануе праваахоўным органам скарыстацца з яго вартасцяў.

**Яўген ГАРЭЛІК**

# Тэрарызм на Кальварыі

*Старадаўнія мінскія Кальварыйскія могілкі імкліва набываюць выгляд новаадкрытых. У пошуках «незанятага» месца намаганнямі камунальнай службы магілы 19 стагоддзя на вачах замяняюцца пахаваннямі сённяшняга дня. Пагрозлівы працэс мадэрнізацыі ператварыўся ў сацыяльную і маральную праблему грамадскага значэння. З гэтай прычыны Хрысціянскае таварыства міласэрнасці і яго ачольнік, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены айцец Уладзіслаў Завальнюк, арганізавалі духоўны «круглы стол» «Кальварыйскія могілкі — святыня і памяць».*

### Падставы абурэння

Мінскія Кальварыйскія могілкі былі заснаваныя ў XVII стагоддзі. Разам з вядомымі дзеячамі нацыянальнай гісторыі і культуры, як паведаміў намеснік старшыні Мінскага гарадскога савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Дзянісаў, там ёсць пахаванні салдатаў напалеонаўскай арміі, ваеннапалонных Першай сусветнай вайны, воінаў Чырвонай Арміі, ахвяраў сталінскага генацыду. З другой паловы 60-х гадоў пахаванні на Кальварыі былі забароненыя. У 1990 годзе комплекс могілак на тэрыторыі 14 га прыняў пад мемарыяльную ахову Мінгарвыканкам. Аднак у 1997 годзе гарадскія ўлады далі дазвол на камерцыйныя пахаванні на месцы «закінутых магілаў» і на «пустках». У выніку цалкам знішчаныя пахаванні ваеннапалонных часоў Першай сусветнай вайны, сотні магілаў, за якімі па розных прычынах няма каму даглядаць (сваякі загінулі падчас войнаў, рэпрэсіраваныя і г.д.). На гэтых месцах цяпер хаваюць нябожчыкаў, родныя якіх заплацілі вялікія грошы за месца на могілках (па розных звестках, ад 200 да 600 долараў). Даследчыца могілак сп. Алла Сакалоўская падкрэсліла, што пры раскопванні старых пахаванняў існуе вялікая экалагічная небяспека, бо на Кальварыі шмат магілаў людзей, памерлых ад халеры, сухотаў, тыфу.

Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс назваў руйнаванне старажытных пахаванняў на Кальварыі «духоўным і маральным тэрарызмам», які выстаўляе Беларусь перад народамі Еўропы краінай недасведчаных і бяспамятных дзікуноў.

### Права і мараль

Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк зазначыў, што кожны чалавек мае права на недатыкальнасць свайго дома пры жыцці, таму ён мае права на недатыкальнасць свайго пасмяротнага «жытла», таго дзялка зямлі, дзе яго паклалі на вечны спачын, і які быў блаславёны. Пахаванне ў чужой, вызваленай магіле — дзеянне глыбока амаральнае. Мноства перазахаванняў на раскапаных магілах «сведчыць аб бездухоўнасці грамадства і парушэнні шматвекавой хрысціянскай традыцыі недатыкальнасці апошняга месца заспакаення чалавека». «На сённяшні дзень, — сказаў Уладзіслаў Завальнюк, — калі мы бачым, як зневажаюцца гэтыя святыя месцы, могілкі, пахаванні нашых продкаў, гэта яшчэ раз сведчыць пра тое, што не бачыць нам Божага блаславення ў будучыні. Калі мы сапраўды хочам, каб Божае блаславенне і жыццё нам спрыяла, мы мусім вяртацца да хрысціянскіх першавытокаў, культуры, традыцыяў, духоўнасці. Без гэтага мы не зможам падрыхтаваць добрую будучыню для нашых дзяцей і нашчадкаў».



Фота Ул.ШЛАПАКА

Кучамі лісця на «забытых магілах» пазначаны месцы для пахавання ў зімовы сезон

Кальварыя — не выключнае месца, дзе, па словах прафесара Сцяблоўскага, адбываецца «бізнес на касцях», дзейнічае «сатанізм». У нас не захавалася ніводнага фамільнага склепа — усе разрабаваныя і бальшынёй зруйнаваныя. Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк прывёў у прыклад варварскае знішчэнне ў Савічах магілаў Алены і Сымона Вайніловічаў, у памяць якіх збудаваны мінскі Чырвоны касцёл.

### Ахоўная зона

Любыя спробы надаць асобным магілам ці частцы могілак асаблівае значэнне (магілы вядомых людзей, найлепшыя помнікі і да т.п.) нясуць у сабе амаральны зародак. Пасля смерці – усе роўныя. Увядзенне цэнзу – грэх. Межай ахоўнай зоны Кальварыі (і ўсіх іншых старадаўніх і новых могілак) ёсць могілкавая агароджа. На гэтай агароджанай ад жывога жыцця тэрыторыі ўсе могілкі недатыкальныя.

Абсалютна супрацьлеглых падыходаў трымаецца начальнік упраўлення камунальнай гаспадаркі Мінгарвыканкама Уладзімір Калодка, якія ён публічна выказаў у інтэрв'ю якраз у дзень «круглага стала». Падыходы гэтыя даволі жахлівыя сваім рацыяналізмам: **«Периодически собирается наша внутриведомственная комиссия, обходит кладбище и принимает решения... В первую очередь стараемся очистить кладбище от обломков, фрагментов крестов, памятников, оград... Если это все сохранять, то во что превратится кладбище? Разве на цивилизованном кладбище можно допускать такие руины?.. В Германии даже проще этот вопрос решается. Родственники усопшего регулярно платят — есть могила. Не платят — надгробие разбирается, проходит время, делают новое захоронение. И здесь нет чего-то противоестественного...»**

Магчыма, германскага парадку сп. Калодка дасягне не надта хутка, але цывілізацыйнае «амаладжэнне» «забытых» магілаў на чыноўны густ пройдзе па старых могілках бульдозерам, калі, зразумела, яго не спыніць пракуратура. Як трапна адзначыў старшыня Таварыства беларускай мовы, знаны археолаг Алег Трусаў, такія эстэтычныя рашэнні «внутриведомственная комиссия» ў складзе сп. Калодкі і яго калегаў можа прымаць і ў іншых мясцінах вечнага спакою, каб наблізіць іх да сучаснасці. Таму, лічыць А.Трусаў, «Кальварыя павінна набыць статус нацыянальнай святыні разам з Курапатамі, Трасцянцом, Воінскімі і Усходнімі могілкамі».

### Права і закон

Хрысціянскае таварыства міласэрнасці, якое апякуе Кальварыю, з прычыны шматлікіх разбурэнняў могілак работнікамі «спецкамбіната», звярнулася ў Дзяржаўны камітэт аховы помнікаў, каб той, адпаведна сваёй кампетэнцыі, паўплываў на адказнае чынавенства. Камітэт, сказаў на «круглым стале» старшыня Дзяржаўнага камітэта аховы гісторыка-культурнай спадчыны сп. Дзмітрый Бубноўскі, прыняў пастанову прыпыніць пахаванні на Кальварыі, аднак чыноўнікі з управы камунальнага абслугоўвання Мінгарвыканкама гэтую пастанову праігнаравалі. «На сённяшні дзень нашым камітэтам падрыхтаваны праект пратакола аб парушэннях, — дадаў сп. Бубноўскі. — Ён будзе накіраваны ў Мінгарвыканкам, а копія — у пракуратуру. Я спадзяюся, што зараз гэта павінна спрацаваць на 100%».

Наўрад ці «пратакол» спрацуе хоць на адзін працэнт. Ніводная са знішчаных магілаў не ўваходзіла афіцыйна ў лік помнікаў, і служба сп. Калодкі фармальна нічога не парушыла, а скаргаў на яе з боку канкрэтных пацярпелых, зразумела, не паступіла. Разуменне таго, што фрагмент агароджы 19 стагоддзя ёсць каштоўнасць, а ў маральным аспекце на ёй ляжыць табу, сённяшнім рытуальшчыкам недаступнае. На «круглы стол» былі прадстаўленыя фотасведчанні: на могілкавым сметніку ляжалі не толькі фрагменты крыжоў, агароджаў, камянёў, а і цэлыя надмагільныя пліты, знятыя з магілаў, прызначаных пад знос. Нібыта цяпер прыняты Закон аб могілках і пахаваннях, але пакуль ён не абвешчаны, ніхто яго не бачыў, не чытаў, і невядома наколькі ён зменіць сітуацыю і спыніць сатанінства. Цалкам магчыма, што ён узаконьвае цяперашні парадак, паколькі «амаладжэнне» прыносіць грошы не толькі камунальнай службе, а нейкай колькасцю ў выглядзе падаткаў і дзяржаве.

**Я.ВЯРЫГА**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 19 – 25 ноября

*Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.*

**ОВЕН**. Друзья или соседи способны оказать медвежью услугу. Зато супруг добивается отличных результатов и становится кормильцем в доме. Если не хотите попасть в цейтнот, скандальную историю, то наметьте решение актуальных вопросов на первую половину недели. Кутеж с другом может обернуться личной неприятностью в выходные дни.

**ТЕЛЕЦ**. Серия встреч, изменений в графике, подготовка серьезной программы – основная задача недели. Неплохо бы собрать коллектив, послушать неординарные суждения во вторник и среду, кого-то наградить или поощрить. Человек противоположного пола создает препятствия в карьере, вскрывает тайные нюансы ближе к концу недели.

**БЛИЗНЕЦЫ**. На работе не дадут спокойно заниматься делом, не исключено, что подключатся к процессу солидные структуры. Вы способны настоять на своем и добиться юридически оформленного важного решения во вторник и среду. Займитесь собственным здоровьем, все остальное может потерпеть. Авиаперелеты лучше отложить.

**РАК**. Вряд ли вас порадует мнение и поведение любимого человека или собственного ребенка, скорее – возмутит. Тем не менее, имеет смысл прислушаться к ним и быть солидарными. Во вторник и среду можно порадоваться собственному счастью и ощущению творческих удач. Пожалуй, не обойтись без эротических и ревностных мотивов в выходные.

**ЛЕВ**. Домочадцы вынуждены с головой уйти в ваши проблемы, но это не значит, что будет тихо и спокойно с их стороны. Обнаруживается человек, который знает вашу подноготную и в открытую способен нанести чувствительный удар во второй половине недели. Вам желательно действовать под прикрытием, дипломатично, тайно – и все уладится.

**ДЕВА**. Вы купаетесь в слухах, то и дело встречаете «ходоков». Но вот собственные поездки могут пройти в очень напряженном режиме, иметь непредвиденные последствия. Во вторник и среду кто-то протягивает руку помощи, становится практически вашим адвокатом, особенно если этот кто-то – женщина. Намечаются весьма влиятельные гости.

**ВЕСЫ**. Кто-то пускается в развлечения, может быть – шумно и весело проводит отпуск, совмещает отдых с коммерцией. Правда, финансы идут в руки во вторник и среду, если вы занимаетесь профессиональной работой. Вероятны удачные заключение выгодного контракта, поддержка творческих устремлений, а у женщин – работа с внешностью и подарки.

**СКОРПИОН**. Во вторник и среду кто-то готов взять над вами покровительство, имеет смысл ставить перед собой самые заманчивые цели. Друзья детей дают жару в первой половине недели. Ближе к выходным вы столкнетесь с непростой бытовой проблемой, не исключена острая ситуация или операция у супруга.

**СТРЕЛЕЦ**. Ваш ребенок может попасть в долговые обязательства, попасть в больницу. Если есть возможность договориться заранее об обследовании в медучреждении, встрече с органами следствия или юристами, а также начальством, то результат во вторник и среду может весьма порадовать. Флирт далеко не всегда заканчивается романтично в выходные дни.

**КОЗЕРОГ**. Не исключено, что придется перестраивать планы, находить дополнительные денежные средства на осуществление странных идей, выкручиваться из непростых обстоятельств. Все-таки не обойтись без финансовых споров с любимым человеком. Делайте большие ставки во вторник и среду. К тому же, услышите много интересного и приятного от супруга.

**ВОДОЛЕЙ**. Кому-то вы перейдете дорогу, даже не желая того. Чтобы не было недоразумений, подключайте влиятельных друзей. Во вторник и среду вы способны получить поощрение высокую оценку своих профессиональных качеств. Помощь близким и родственникам оборачивается наградой и уютным времяпровождением.

**РЫБЫ**. Вы можете почувствовать себя беззащитным, «рвется» то тут, то там во второй половине недели. Главное, не вступать в противоречие с законом, следить за давлением и сосудистыми изменениями. Во вторник и среду вы можете узнать, где находится то самое счастливое «седьмое небо», где поселилась удача, любовь, радость за детей. Предстоит торжество в первой половине недели.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1785 Нумар падпісаны ў друк 18/11/2001 (15:00) Наклад — 9.490